Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 33. Вільня, Серада, 13-га траўня 1925 г. Год I.

## 45; 72; 1368....

У першым нумары нашае газэты мы напомнілі нашаму грамадзянству, што сёлетні год—гэта год беларускіх юбілеяў: тут і 400-ыя ўгодкі беларускага друку ў Вільні, і 25-ыя ўгодкі цяглае арганізаванае працы нашых адраджэнцаў, і 15-ыя ўгодкі закладзінаў у Вільні-ж першае беларускае драматычнае дружыны...

Звычайна юбілеі даюць повад да агляду мінулага пэрыяду, зробленае працы, пройдзенае дарогі. Але мы сяньня хочам адзначыць адну *новую* рысу ў нашым адраджэнскім руху, якая вельмі ярка выявілася якраз за *сёлетні* год. Бо-ж іменна ў сёлетнім годзе з поўнай ачывістасьцяй паказаў, што беларускі рух—прынамся ў Заходняй Беларусі — увайшоў у *новую фазу*.

Спачатку этапы руху адзначаліся нашымі *культурнымі* здабычамі. Закладзіны новае часопісі, выхад у сьвет кніжкі, заснаваньне нейкай культурнай установы, беларускае пачаткавае школы, гімназіі, курсаў — вось чым мерыўся поступ беларускага нацыянальнага адраджэньня. Пасьля—у сувязі з сусьветнай вайной і Вялікай Рэвалюцыяй у Расеі—пачаліся яркія нацыянальныя і палітычныя выступленьні, пачалося будаваньне новае Беларусі—дзяржаўна-сацыяльнае. І ўсё гэта было зусім нармальна, як вынік нармальнага і ўсебаковага разьвіцьця сьвядомасьці беларускіх масаў, разьвіцьця беларускае грамадзкае і палітычнае мысьлі.

У Заходняй Беларусі ад часу запанаваньня над ёй Польшчы нельга ўжо адзначаць *поступу* беларускага руху заваяваньнямі *культурнымі*: наадварот, прыходзіцца з кожным годам адзначаць культурны *заняпад*, сьціcканьне рамак творчае культурнае працы. Школы, пазбаўленыя ўсялякае дапамогі дзяржавы, на якую падаткі зьбіраюцца і з нашага народу, або самыя зачыняюцца, або іх зачыняе ўлада. Даволі сказаць, што ў межах Заходняе Беларусі ад 1920 году зьліквідаваны каля 400 беларускіх пачаткавых школ, вучыцельская сэмінарыя, дзьве гімназіі, што зьнішчаны ўсе каапэратывы ў Горадзеншчыне, забіты нацыянальна-беларускі „Віленскі Саюз Каапэратываў“,—і абраз будзе зусім ясны....

Але памыліўся-бы той, хто зрабіў бы з гэтага вывад аб упадку беларускага руху ў Заходняй Беларусі наагул. Не: *рух усьцяж расьце* і тут, і рост гэты адбываецца ў *шырокіх народных масах*. Гэты нічым нястрыманы рост выявіўся ўжо тройчы ў масавых выступленьнях нашага сялянства: байкот выбараў у так-званы „Віленскі Сойм“, бліскучая перамога беларусаў на выбарах у польскі Сойм і Сэнат у 1922 годзе, урэшце — сёлетні „школьны плебісцыт“ — вось праявы поступу беларускага руху.

Але ёсьць і яшчэ праява руху, якая зьяўляецца зусім нармальнай у зусім ненармальных варунках жыцьця Заходняе Беларусі: гэта—рост ня толькі лічбы *беларускіх палітычных працэсаў*, але і лічбы *суджаных на іх беларусаў*. Тутака выяўляецца нязвычайна цікавая прагрэсія: працэс у Беластоку — 45 падсудных; працэс у Горадні, які толькі што закончыўся, — 72; арышты ў Наваградчыне—„чырвонае яечка“ беларусам на Вялікдзень—1368...

Ужо гэтыя тры цыфры гавораць вельмі многа. Гавораць яны перад усім, што запраўды няма такое сілы, няма такіх рэпрэсіяў, якімі можна было-бы спыніць, задушыць беларускі нацыянальны рух, бо ён ужо *стаўся рухам народных масаў*. А адначасна яны паказуюць, што штучнае спыненьне культурнае творчае працы беларусаў неўмаліма *выклікае палітычную барацьбу*, у якой і знаходзяць для сябе выхад тыя нацыянальныя сілы, якім зачынены культурны шлях.

Вось гэта і ёсьць новая фаза нашага руху ў Заходняй Беларусі, а сымвал яе — прыведзеныя ў загалоўку цыфры прагрэсіі: 45; 72; 1368...

„Хто мае вушы, хай чуе“ і—хай *зразумее*!

## Плады „казённага“ узгадаваньня.

Тое, што сталася на магіле забітага ў гімназіі ім. Лелевэля вучня-беларуса Загорскага, давяршыла абраз таго „духу“, якім напоена, ці лепш: натхнёна,—моладзь польскіх дзяржаўных школаў.

Загорскі быў адзіным сьвядомым беларусам у восьмай клясе гімназіі ім. Лелевэля. З прычыны таго, што ён быў праваслаўны, рэлігію выкладаў яму „ojciec Filip“ („істінно-польскій священник“). На пытаньне апошняга: у якой мове Загорскі хоча вучыцца,—у польскай, ці расейскай, — вучань адказаў, што ён беларус і хоча вучыцца ў роднай беларускай мове. Ведама, „ojciec Filip“ на гата не згадзіўся...

Ужо гэты факт паказуе нацыянальнае аблічча Загорскага, які аднак-жа, зьвязаны цяжкім сямейным палажэньнем, быў прымушаны сваей беларускасьці шырэй не выяўляць. Вось, ведаючы яго, як свайго земляка, вучні Віленскае Беларускае Гімназіі разам з сваімі кіраўнікамі прынялі ўчасьце ў пахаронах Загорскага, і на магіле яго, пасьля **польскае** прамовы „ojca Filipa“ ў царкве і некалькіх польскіх прамоўцаў на магільніку, ад імя беларускае моладзі прамовіў **пабеларуску** вучань Янэль (—той, якога ў леташнім годзе так скатавала паліцыя).

„Пад сумны хаўтурны звон хаваем мы сёньня на гэтых могілках яшчэ аднаго сына Беларусі, якому ліхая доля нашага народу судзіла перадчасную сьмерць.

„Забіты ў часе крывавае трагедыі ў гімназіі Лелевэля наш таварыш Аляксандар Загорскі ў чужой яму, няроднай польскай школе шукаў навукі, знаньня, шукаў тэй недасяжнай для нас, вучняў беларускае гімназіі, матуры, якая дае магчымасьць паступіць у вышэйшую школу. І вось, калі ён стаяў на парозе самастойнага жыцьця, калі працягваў руку на гэную кветку папараці,—куля таварыша перарвала ягонае маладое жыцьцё.

„Дарэмнымі аказаліся яго маральныя мукі, якія ён цярпеў у чужой школе, — а мукі гэныя цяжэйшыя, чым тыя фізычныя катаваньні, якія перанес на сабе не адзін з нас, вучняў-беларусаў...

„Учынак Лаўрыновіча нам ясна паказвае, якая нездаровая атмасфэра пануе ў польскіх дзяржаўных школах. Гэты факт нам добра сьведчыць, што там—у польскіх школах,—інакш кажучы: у чужой асярэдзіне,—для беларускай моладзі мейсца няма!“...

Калі Янэль толькі пачаў гаварыць пабеларуску, дык сярод прадстаўнікоў адміністрацыі—дэлегатуры, куратарыуму, — пачалося ўзварушэньне. Калі-ж сказаў вышэйпададзеныя словы, на яго кінуліся некалькі вучняў-палякоў, схапілі за рукі і сьцягнулі з узгорка, не даючы гаварыць далей. І, ня гледзячы на абурэньне прысутнае інтэлігенцыі з прычыны такое праявы бандытызму польскіх школьнікаў, узгадаваных панамі Гонсёровскімі і Сьвідэрскімі,—беларусу так і не далі дакончыць распачатае прамовы...

Дый чаго-ж іншага было спадзявацца ад тых, што ня ўмеюць шанаваць нават жыцьця сваіх-жа таварышоў-палякоў?!... Чаго ждаць ад гадунцоў польскае школы, аб якой **польская-ж** дэмакратычная часопісь: „Kurjer Wileński“ даслоўна гаварыла ў нумару з 9 мая:

„У школе паношыцца дух **нетолеранцыі, расавае і нацыянальнае ненавісьці**, ды нават атмасфэра **ўзьвялічаньня гвалту і злачынства**“...

Віленская трагедыя, скандальны выпадак на пахаронах Загорскага—вось плады панаваньня ў польскай дзяржаўнай школе таго духу, аб якім гавора ў такіх яркіх словах нават больш прызваітая польская школа...

**Ів. Мялешка.**

## „Сялянскі экспэрымэнт“ у Баўгарыі.

(Пачатак глядзі ў № 32 „Бел. Долі“).

Трэба сказаць праўду: улада працоўных у Баўгарыі была вельмі суровая, асабліва для тых, што прывыклі жыць ня ўласнай працай, але чужой...

Перадусім Стамбулійскі пад націскам народнага гневу аддаў пад суд усіх актыўных памоцнікаў цара, кінуўшага край у крывавую бойню народаў... Міністры ўсіх урадаў, істнаваўшых у працягу вайны, былі пасаджаны ў вастрог, калі не здалелі ўцячы заграніцу...

Аднак, трэба сцьвярдзіць, што Стамбулійскі ня вытрымаў ролі спакойнага прадстаўніка вялікай мірнай перамогі працоўнага сялянства, і яго дэмакратычная ўладаператваралася ўсё больш у „дыктатуру“... Зусім не патрэбна ён скасаваў ці значна абмежаваў свабоду слова і друку, сабраньняў і саюзаў.

Выбары 1923 году адбыліся пад моцнымі і зусім непатрэбнымі рэпрэсіямі з боку ўраду і далі парлямант, пазбаўлены ўсялякай апазіцыі...

Гэтыя рэпрэсіі паднялі проці ўраду Стамбулійскага ўсіх праціўнікаў яго—сацыяльных ворагаў сялянства: буржуазія з баўгарскімі „пэпэсамі“ зрабіла коаліцыю ў краю, чакаючы толькі адпаведнага момэнту, каб зрабіць „пераварот“ — і захапіць уладу над народам. Ведама, ніколі гэткая спроба не магла-б удацца, калі-б на чале гэтае змовы проці сялянства не стаяў, (як і ў Югаславіі) сам цар Барыс — з усімі „безработнымі“ ад канца вайны генараламі і афіцэрамі... Падгатаваўшы грунт у пераможцаў, апіраючыся на ўсё больш крапчэўшую у Эўропе рэакцыю,—пазываючыся **на камуністычную небясьпеку** і карыстаючыся кулацкімі элемэнтамі сялянства,—гэтая „ваенна-буржуазна-сацыялістычная“ коаліцыя 9 чэрвеня 1923 г. зрабіла дзяржаўны пераварот, захапіўшы ўладу ў сталіцы... І пачалася страшэнная зьверская ліквідацыя, як асабістага складу, таксама і ўсіх заваяваньняў улады працоўнага сялянства...

Пачаліся масавыя забойствы, казьні, арышты сяброў і прыхільнікаў ураду Стамбулійскага. Сам Стамбулійскі ўцёк у горы, але хутка паліцыя асачыла яго, і ён быў пазьверску забіты. Былі также забіты і амаль ня ўсе сябры яго габінэту. Адзін з іх,—Даскалов, быў забіты ў Празе Чэскай цераз некалькі месяцаў пасьля перавароту. Вось як далёка сягала „чыстая рука“ таго ўраду, які скардзіцца цяпер на тэрарыстычную дзеяльнасьць сялян-„камуністаў“...

На мейсца „клясавага“ сялянскага цар Барыс стварыў урад коаліцыйны, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх партыяў да сацыял-дэмакратаў уключна. Не ўвайшлі, зразумела, толькі „сялянская партыя“ і камуністы.

Але запраўдным дыктатарам краю стаўся галоўны правадыр замаху — сам цар Барыс, улада якога, змалеўшая амаль не да нуля ў часе ўрадаваньня Стамбулійскага, дайшла цяпер такое-ж сілы, якую меў у часе вайны яго бацька Фэрдынанд...

## Працэс украінскіх дэпутатаў.

6 траўня ў м. Роўным пачаўся працэс трох украінскіх дэпутатаў: Паўлы Васыньчука, Казіцкага і Чучмая. Усім закідалася антыдзяржаўная агітацыя на мітынгах.

Цікавы нацыянальны склад учасьнікаў працэсу: абвінавачываюць украінцаў, сьведчаць проці і судзяць іх—палякі; сьведкі абароны—усе украінцы.

У самым пачатку працэсу разыграўся вялікі, бяспрыкладны скандал. Калі адвакат Шэвчук папрасіў сьведку (дэфэнзыўчыка) сказаць, што ён разумее пад словам „дэнунцыяцыя“ (данос), старшыня суда ўхіліў гэтае пытаньне. Калі-ж адв. Шэвчук настаіваў на сваім, старшыня суда пазбавіў яго слова, а на пратэст яго загадаў вознаму вывесьці яго з салі. Тады ўся абарона зложыла свой пратэст проці такога паступаньня з абаронцам і зраклася бараніць падсудных пры гэткіх варунках. Суд быў прыпынены. Пасьля перарыву суд заявіў, што на мейсца выйшаўшых адвакатаў падсудным будуць дадзены казённыя абаронцы.

Падсудныя зракліся такіх абаронцаў, і працэс адбываўся **зусім без адвакатаў.**

Усе тры дэпутаты засуджаны на 1 да 2 гадоў вастрогу.

---

Новыя выбары ў канцы 1923 году, ня гледзячы на нячуваныя крывавыя рэпрэсіі, далі толькі 185 дэпутатаў урадавай коаліцыі—з агульнае лічбы 247,—а 62 мандаты асталіся ў руках апазіцыі—„сялян“, камуністаў і народных лібэралаў, якія хутка выйшлі з цанкоўскай коаліцыі.

Каб даць хаця слабое паняцьце аб тым белым і чырвоным тэроры, які тасуе праз увесь час вярнуўшаяся да ўлады ваенна-буржуазная кліра, прывядзём факты, паданыя ў ўласнай карэспандэнцыі газ. „Robotnik“. Газэта гэтая, як ведама, ня мае лішняе прыхільнасьці да сялян ці да камуністаў, дык інфармацыі яе карэспандэнта можна ў гэтым выпадку лічыць **непавялічанымі...**

Вось, што пісалася ў канцы лютага гэтага году ў карэспандэнцыі з Софіі — паўтара году пасьля буржуазнага перавароту, які павінен быў „даць мір і парадак“ „захопленаму мужыкамі і камуністамі краю“.

„Паводле аблічэньня, толькі за апошнія 30 дзён у Баўгарыі зроблена **36 палітычных забойстваў** і каля **150 замахаў на розных палітычных дзеячоў і ўрадоўцаў**“.

Рэдактар цанкоўскага афіцыозу Мілев, пракурор софійскага суда, начальнік сталічнай дэфэнзывы, цэлы рад вышэйшых афіцэраў паліцыі і жандармэрыі—вось ахвяры „чырвонага адказу“ на белы тэрор Цанкова, закаваць у кайданы 85% народу, як гэта было калісьці, — ведама, цяпер ужо дарэмная праца. Народ перастаў баяцца. Атрады партызанаў, у якіх афіцыяльная паліцэйская статыстыка налічывае больш 6.000 людзей,— вось ваенная экспазітура непераможнага сялянства. І вось генарал Русев, які цяпер так уславіўся, амаль ня выклікаўшы вайну з Югаславіяй, назначаны міністрам унутраных спраў, пачаў **„усьмірэньне краю“**. Фактычна палова Баўгарыі ўжо больш як паўтара году знаходзіцца на ваенным палажэньні.

Гэты страшэнны тэрор, ураду Цанкова выклікаў вялікае абурэньне ў Эўропе. І вось вядомы лідэр бэльгійскіх сацыялістаў—Вандэрвэльдэ ізноў —ня прыхільнік „сялянскага камунізму“ асабіста паехаў у цанкоўскую Баўгарыю і адтуль абвясьціў усяму сьвету тое, што гэтак старанна хавалі царскія каты. Вандэрвэльдэ сцьвярдзіў, што **за паўтара году свайго гаспадараваньня Цанков (цар Барыс!) забіў—па суду ці бяз суда—больш дзесяцёх тысячаў людзей!..**

„Высілкі Цанкова зрабіць з партыі Стамбулійскага „камуністаў“ і на гэтай падставе (!) фізычна зьніштажаць яе правадыроў (і прыхільнікаў), — піша карэспандэнт „Robotnik'а“,—усё больш робяцца яўна фальшывымі“... А ці-ж для нас на „Крэсах“ Польшчы ня ясна гэтая „падстава“, якая служыць вельмі добра да „ўмацаваньня“ ўлады, якая ня мае ані маральнага, ані сацыяльнага, ані нацыянальнага апраўданьня?!

**10.000** закапаных у зямлю найбольш актыўных адзінак 5 міліённага баўгарскага сялянства, якое змагаецца за сваё сацыяльнае і палітычнае вызваленьне, — гэта, можа, і ня менш, чым тыя **дзесяткі** пацярпеўшых ад выбуху ў сафійскім саборы... У кожным выпадку, каб зразумець, што не ў Маскве трэба шукаць „выбуховага матэрыялу“, які ўзарваўся ў саборы. Забіўшы некалькі катаў (апрача галоўнага!), увесь сялянскі народ Баўгарыі—гэта адзін вялізарны склад пораху...

„Дух сьмерці вее над няшчасным краем“, піша карэспандэнт „Robotnik'а“. Але ніколі „дух сьмерці“, як-бы гэтага ні хацелі сучасныя паны палажэньня ў Баўгарыі, — не пераможа жывога народу!.

Цікава і для нашага беларускага сялянства ведаць аб тым, як цяжка імкненьне яго баўгарскага брата да волі, як страшэнна крывава імсьцяцца на ім насільнікі—за кароткую нават спробу гаспадараваньня сваім лёсам. Цікава даведацца і аб тым, якім разумным і карысным для краю было гэтае кароткае гаспадараваньне, як дасьпеў да ўлады ў Баўгарыі,—а можа і ня толькі ў Баўгарыі, а і ў другіх сялянскіх краёх!—прыраджоны гаспадар зямлі—селянін-хлебароб.

Ведаючы ўсё гэтае, мы лягчэй разьбяромся ў тых крывавых падзеях, якія выклікае ў Баўгарыі —на сваю аканчальную згубу!—ваенна-буржуазна-сацыялістычны ўрад Цанкова.

**Дзядзюля.**

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Падзяка міністра—польскай паліцыі.

Міністар унутраных спраў Ратайскі выдаў цыркуляр, у якім дзякуе ўсей дзяржаўнай паліцыі ў краю за энэргію і тактоўнасьць, выяўленыя ў дні 1 і 3-га траўня.

Цікава падчыркнуць, што гэты акульнік выданы пасьля таго, як выкрылася паліцэйская правакацыя з учасьцем Трояновскага.

### Ізноў замах на цягнік.

З Любліна паведамляюць аб новым, але ў час папярэджаным, замаху на кур'ерскі цягнік.

### Выбух у парахоўні ў Радаме.

9-га траўня на парахавым заводзе каля Радама зрабіўся ў складах пораху выбух. Забіты 2, гэтулькі-ж раненых. Разбураны будынкі.

### Арышт бальшавіцкіх камісараў (?) у Варшаве.

„Dz. Wil.“ піша яго карэспандэнт з Варшавы, што там арыштаваны некалькі „бальшавіцкіх камісараў“. Каторы гэта раз і сколькі-ж гэных „камісараў“ у Польшчы?.,

### Польска-чэхаславацкая ўмова.

Англійскія газэты даюць зьмест толькі-што падпісанага ў Варшаве польска-чэхаславацкага дагавору:

1) Чэхаславакія быццам абязалася падтрымпіваць Польшчу ў справах Данцыгу, Сьлёнску і „польскага калідору“;

2) Польшча абязалася выступаць проці злучэньня Аўстрыі з Нямеччынай;

3) Абодва краі падтрымліваюць на Балканах Югаславію, Румынію і Грэцыю;

4) У Лізе Народаў Чэхаславакія і Польшча маюць „супольны фронт“.

### Прадстаўнікі Лігі Народаў у Варшаве.

4-га траўня ў Варшаву прыехалі 2 прадстаўнікі сэкрэтарыяту Лігі Народаў—п. п. Кольбан і Гааф.

## Заграніцай.

### Водгукі рыжскае канфэрэнцыі.

Роста публікуе:

Генаральны сэкрэтар латвійскага міністэрства заграпічных спраў, Албат, заявіў прадстаўнікоў ўраду ССРР, што рыжская канфэрэнцыя генаральных штабаў ня мела варожага да ССРР характару. Латвія і надалей будзе імкнуцца да ўмацаваньня прыязных адносінаў з ССРР і з Нямеччынай і ні ў якія коаліцыі, варожыя да гэтых дзяржаў, уваходзіць ня будзе.

Паводле слоў Албата, прадстаўнік Румыніі зьявіўся на рыжскую канфэрэнцыю разам з польскімі прадстаўнікамі (—дык вось дзе зарыта сабака!), зусім ня прошаны балтыцкімі дзяржавамі...

### Антыпольскія дэманстрацыі ў Менску.

З Менску пішуць у „Dz. Wil.“:

У Менску адбыўся цэлы рад дэманстрацыяў проці Польшчы. У паходзе нясьлі плякаты, на якіх было намалявана, як беларускі работнік і селянін топчуць нагой вырваныя гранічныя слупы з белым арлом, гонючы перад сабой палякоў. Гэтыя-ж малюнкі зьмешчаны ў мясцовых выданьнях

### Паварот Троцкага да ўлады.

Нямецкія газэты паведамляюць аб быццам зробленай ужо пастанове Рады Народных Камісараў, вярнуць Троцкага да актыўнай працы па кіраўніцтву ССРР, далучыўшы яго чацьвёртым да найвышэйшай „тройкі“—Каменева, Сталіна і Дзержынскага. Паводле іншых вестак,—пасьля гэтай пастановы Зіноўеў, Бухарын і Фрунзэ прыгразілі, што выйдуць у адстаўку.

Паводле апошніх вестак, Троцкі назначаны камісарам замежнага гандлю (внешторгу) ССРР.

### Усерасейскі Зьезд Радаў.

8-га траўня ў Маскве распачаў працу Усерасейскі Зьезд Радаў, на якім мае быць зацьверджаны праект зьменаў Канстытуцыі ССРР, прынятай у 1918 г. Новы праект прадбачыць важныя зьмены ў галіне прыватнай уласнасьці і ініцыятывы.

### На ўсеукраінскім зьезьдзе радаў.

На ўсеўкраінскім зьезьдзе Радаў Каменеў заявіў, што на найбліжэйшым зьезьдзе Радаў будуць праведзены законы, маючыя мэтай агульнае гаспадарчае падняцьце сялянства.

У рэзалюцыі зьезду было пастаноўлена дамагацца ад саюзнага ўраду больш актыўных і энэргічных мераў дзеля аховы і абароны ўкраінцаў у Польшчы і Румыніі. Зьезд далей паставіў рашуча пытаньне аб тым, каб нарэшце палажыць канец румынскай акупацыі ў Бэсарабіі, ды каб радавы ўрад дабіўся ад Польшчы точнага выпаўненьня тых абавязкаў адносна да ўкраінскага і беларускага насяленьня, якія Польшча ўзяла на сябе паводле Рыжскага Трактату.

### Знаменная прамова Каменева.

На ўсеўкраінскім зьезьдзе Радаў у Харкаве Каменев сказаў прамову, у якой прызнаў, што буржуазія ў Заходняй Эўропе, пакуль-што, да часу ўзмоцнілася, дык трэба пачакаць, пакуль—пад гэтымі апошнімі рэакцыйнымі ўрадамі—дасьпее сацыяльная рэвалюцыя.

Што-ж мае рабіць пакуль што ССРР?..

Трэба імкнуцца да ўзмацаваньня творчых сілаў сялянскіх масаў. Трэба дабіцца, каб сялянства пачула сябе адказным за палітыку ўраду.

## Наступнікі фон-Плевэ і Азэфа.

Як можна было спадзявацца, выбух у рэдакцыі радыкальна-сялянскай часопісі „Walka Ludu“ ў Варшаве аказаўся правакацыяй.

Вось, шта піша аб гэтай нячуванай справе інтэрпэляцыя клюбу P.P.S.

„Акалічнасьці выбуху ў рэдакцыі газ. „Walka Ludu“ занепакоілі ўсю грамадзкую апінію, бо **аказалася, што „рэдактар“ Трояновскі—гэта агент палітычнай паліцыі пры Камісарыяце Ураду м. Варшавы, і што свае абавязкі рэдактара ён спаўняў з ведама і даручэньня свайго начальства—вышэйшых урадоўцаў палітычнай паліцыі... Сцьверджана таксама, што п. Трояновскі атрымаў ад свайго начальства — палітычнай паліцыі — даручэньне** зрабіць на дзень 1-га траўня некалькі бомб, якія ён з ведама і з даручэньня сваіх начальнікаў з палітычнай паліцыі пры Камісарыяце Ураду м. Варшавы, быццам меў даставіць на дзень 1-га траўня камуністам для няведамых мэтаў“.

І вось, цяпер сама сталіца Польшчы, сама Варшава мае ўжо ў сваім „дзяржаўным сэрцы“—у палітычнай паліцыі—тое, што яна дагэтуль практыкавала, як асноўны „спосаб упраўленьня“,—на „Крэсах“.

Акурат 2 гады назад—пасьля Беластоцкага працэсу, які выкрыў усю агіду сыстэмы правакацыі,—беларуская газэта папераджала, **што ўсё тое, што польская ўлада і польскае грамадзянства гатуе і дапускае на „Крэсах“, у вельмі хуткім часе будзе мець і ў сябе.** З „Крэсаў“ гэтая зараза мусіла перайсьці і ў „уласьцівую Польшчу“.

Усе ў Польшчы, а перад усім на „Крэсах“, добра ведалі, што палова, калі ня больш, „камуністаў“, „дывэрсантаў“, „бандытаў“, „нападаў“ і г. д. — былі сфабрыкаваны.

Легенды аб тым, як „пераадзетыя ў паліцэйскую форму бандыты“ адбіраюць у сялян—амаль не на другі дзень па атрыманьні з пошты—амэрыканскія даляры, ня кажучы аб справах „буйнейшых“,—маюць сотні і тысячы „варыянтаў“ сярод нашага сялянства.

Толькі што ў Вільні выбухнула страшэнным выбухам „скула“,—хоць, здаецца, ня там, дзе была плянова школьная трагедыя ў Вільні паказала ўсяму сьвету, як страшэнна „przeładowana“ Польшча—польскія склады і польскія душы—выбуховымі матар'яламі... як многа (**аж сыплецца з гары** — у дзяціныя рукі!), як страшэнна многа ў Польшчы яружжа...

І вось, правакацыя, дастойная найздальнейшых шэфаў дэпартамэнту паліцыі самаго фон-Плевэ і яго „прыяцеляў“, уцэнтравалася і абнаглега,**—апіраючыся на „Крэсавы“ рэжым**,—і ў самай Варшаве...

У сувязі з паказаньнямі рэд. Трояновскага аб ролі палітычнае паліцыі ў справе выбуху, ухілены ад сваіх абавязкаў начальнік палітычнае паліцыі Пёнткевіч, ды яго інспэктар Лэнскі.

Міністар унутр. спраў загадаў начальніку дэпартаманту паліцыі і інспэктару галоўнага ўраду дзяржаўнае паліцыі, каб зрабілі рэвізію дзеяльнасьці варшаўскае палітычнае паліцыі. Толькі-ж ці грамадзянства хоць што-колечы даведаецца аб выніках гэтае рэвізіі, трудна сказаць...

---

### Амэрыканскі пасол аб эўрапэйскім „міры“.

Амэрыканскі пасол у Лёндане сказаў прамову, у якой заявіў, што Амэрыка гатова памагчы Эўропе грашмі, але—не на вайну і не на такі „мір“, у часе якога падгатаўляюць толькі новую вайну. Аб запраўдным, трывалым міры ня можа быць гутаркі без прымірэньня з Нямеччынай.

### Чарговая „камэдыя разбраеньня“.

У Жэневе адкрылася і працуе канфэрэнцыя пры Лізе Народаў у справе абмежаваньня таргоўлі ўсялякага роду аружжам. Пастаноўлена забараніць таргоўлю прыватным асобам і дазволіць урадавым установам. Англія, Італія і Японія заявілі, што таргоўля аэрапланамі, ваеннымі караблямі і аэрастатамі павінна астацца вольнай...

### Адказ Францыі на прапазіцыю Нямеччыны.

З Парыжу паведамляюць аб зьмесьце адказу Брыяна на прапазіцыю Нямеччыны ў справе ўмовы аб бясьпечнасьці.

Варункі Францыі гэткія: 1) Умова мусіць быць у згодзе з усімі паваеннымі трактатамі, а перад усім—з Вэрсальскім; 2) Нямеччына павінна ўвайсьці ў склад Лігі—бяз ніякіх папярэдніх варункаў; 3) Умова мусіць быць зарэгістравана (—аддана пад ахову) ў Лізе Народаў.

### Акупацыя Кельну і нямецкія „нарушэньні“.

З Лёндану паведамляюць, што ваенна-кантрольная камісія да 13 траўня апрацуе, нарэшце, даклад аб нямецкіх нарушэньнях Трактату ў галіне разбраеньня, пасьля чаго Нямеччыне будзе выслана Радай Паслоў нота. Англія быццам пастанавіла — эвакуаваць Кельнскі абшар, а ваенны кантроль над Нямеччынай аддаць Лізе Народаў. Ці згодзіцца на гэта Францыя, няведама.

### Выбары ў самаўрады ў Францыі.

Выбары ў самаўрады, ад якіх залежыць склад Сэнату (сэнатараў выбяраюць самаўрады!) і па рэзуль-

Пропаведзь гэтую з „вялікай прыемнасьцяй“ выслухала перад усім польская ўлада. „Ojciec Filip“ можа сьмела разьлічаць на новую тысячу злотых!

Добры заработак, праўда?!

**Напады ў Белавежскай пушчы.** У ноч на 4 траўня банда, зложаная з некалькіх асоб, напала на дом лясьнічага Нямчыновіча ў Ягелёнскім лясьніцтве, у Белавежскай пушчы. Бандыты разброілі і зьвязалі 8 лясьнікоў, забіўшы старшага з іх. Пасьля гэтага, забраўшы 180 злотых, бандыты на вазох ад'ехалі ў напрамку Іхопаля.

Колькі дзён перад тым у самай Белавежы нявядамыя бандыты забілі паліцыянта і ўкрыліся ў лесе.

**Сэнсацыйная вестка.** „Życie Ludu“ ў апошнім сваім нумары з 10 мая падае гэткую вестку:

„У апошніх часох уцёк у Літву заступнік начальніка тайнае ваеннае паліцыі, Рышард Грабовскі, і паведаміў літоўскія ўлады аб змове, якую быццам з'арганізавалі палякі ў Літве. У сувязі з гэтым адбыліся арышты ў Літве.

„Віленскія газэты назвалі Грабоўскага здраднікам, а пасьля дадалі, што ён злодзей і што польскі суд дамагаецца выдачы яго судовым уладам. Але з гэтага нічога ня выйдзе, бо перашкаджае гэтаму адсутнасьць консулярных зносінаў між Польшчай і Літвой“.

Калі ўсё гэта праўда, дык відаць „posunięcia“ п. Пілсудскага ў Літве, якія ён у сваім часе рабіў праз свайго агента Бакановскага (арганізацыя бунту), знайшлі прадаўжацеляў...

# Пісьмо у Рэдакцыю.

**Адказ**

**на выпіску з пратаколу нібыта паседжэньня Ч. Б. Р. ад 26—IV—25, зьмешчаную ў „Грамадзкім Голасе“ № 19 (73).**

1. Заяўленьне нібыта Прэзыдыума Ч. Б. Р., што „закіды, зробленые п. п. Канапацкім, Бэкішам і Лапай, зьяўляюцца беспадставунымі“ — праўды, але... але толькі тады, калі будзе пацтверджана фактамі, бо інакш выглядае і не паважна, і не праўдзіва, быццам нейкае галаслоўнае пустаслоўе.

2. Што асобы, зрабіўшыя гэтые закіды ня прымалі „актыўнага ўдзелу ў працы—і гэта праўда, бо фактычна і працы ніякай ня было, а калі часам і была, дык толькі ў першым пярыадзе, да расколу Рады з Грамадзянскім Сабраньнем. У другім-жа пярыадзе-асабістыя выезды і прыезды п. Паўлюкевіча бяз ніякага пляну, без апрабаты Рады—ня ёсьць тэй „актыўнай“ працай ўсяе Рады, на якую цяпер быццам прэтэндуюць затрымаўшыяся пры п. Паўлюкевічу паны Фрацішак Аляхновіч, Язэп Салавей і Кабычкін.

Што мы для гэтых паноў, а асабліва для п. Паўлюкевіча зьяўляліся толькі „балястам“—і гэта праўда, але, трэба дадаць, балястам чыста характару эканамічнага.

3. Што наш выхад меў канечнай мэтай зрыў Рады—вось і гэта нават праўда, бо залезшая ў тупік Рада—па сваёй не працаздольнасьці, па адсутнасьці арганізатарскае творчасьці і агульнага адпаведнага кіраўніцтва для падтрыманьня ў сваім народзе і ў грамадзянстве польскім „пашаны да тэй ідэалёгіі, якую прыняла, як сваю праграму“—павінна была нешта прадпрыняць, каб выбіцца з гэтага тупіку, але... але, як што каму падабаецца.

Што-жа тычыцца камунікату нібыто прэзыдыума Ч. Б. Р. аб „запраўдных матывах“ нашага выхаду з Рады, дык і тутака шмат праўды:

1. Што мы не рабілі заяў у Радзе—праўда, бо апошнія часы „актыўныя“ працаўнікі досіць „актыўна“ ўхіляліся ад скліканьня паседженьня, што і змусіла нас пераслаць заяву поштай.

2. Што кантакт з украінцамі быў навязаны з'апрабаты Рады—ізноў праўда, але павінны былі ехаць 2 выбарных прадстаўнікі, а не адзін п. Паўлюкевіч, які ня меў ўпаважненьня на гэта, прынамся ад Рады.

3. І нарэшце што зусім ня праўда — гэта, што справаздача давалася, а асабліва справаздача грашавая, бо ад расколу Рады г. е. ад 10/II да 16/IV не вызначалася і не адбылася аніводнага паседженьня прэзыдыуму.

У канцы-канцоў надта шкада, што нібыто прэзыдыум Ч. Б. Р. у ацэнку нашае дэклярацыі „апрача іншых“ прывеў толькі 2 факты.

Адказываю сам за сябе: ад першых да апошніх паседжаньняў прэзыдыуму Ч. Б. Р. амаль што не на кожным з' іх, нават на пленарных паседженьнях Рады падымалася пытаньне аб упарадачаньні расходаў грошаў і наўмысьля дзеля гэтага быў выбраны скарбнік, а сэкрэтару даручана бухгальтэрыя. Але... грошы праходзілі міма скарбніка, а ў бухгальтэрыю не пападала аніводнага рахунку, і я, як скарбнік, мушу прызнацца што фактычна быў праўдзівым „балястам“ і балястам нават не эканамічнага характару. Толькі адзіныя грошы, грошы на настаўніцкі зьезд, якія мелі сваю выключную мэту і свой выключны расход, прайшлі праз мяне. Быўшыя на зьезьдзе настаўнікі разьехаліся ў поўным разрахаваньні з Радай, і разрахунковы сьпісак передадзены п. Паўлюкевічу, а што не прадстаўлены мною поўны адчот, то гэта не з маёй віны, бо да гэтага часу ня маю рахунку на выдадзеную мною, і досіць добрую, суму грошаў п. п. Паўлюкевічу, Більдзюкевічу, Шышкову і Кабычкіну.

# Змаганьне за родную школу.

**На чорную дошку.**

**Ваўкавыскі пав.** Войт Сьвіслацкай гміны **Фэлікс Дырында** адмаўляўся сьведчыць подпісы на дэклярацыях жыхароў в. Ліхасельцы. Так сама катэгарычна адмовіў сцьвердзіць подпісы жыхароў в. Чаплічы, Жылічы і Гарбачы; з лаянкаю выгнаў дэклярантаў з гміны, бэсьцючы беларускую мову і школу. Ен, мусіць, хоча, каб у гэтых вёсках засталася польская школа, у якой вучыцялюе яго прыяцель асаднік нейкі Квяткоўскі, каторы зусім ня умее вучыць дзяцей.

Войт Ізабелінскай гм. **Міхал Ягільніцкі** вось як абманваў жыхароў в. Казейкі, Паўлаўшчына, Нізяны, Загор'е, Ельцаўшчына і іншых: ён сказаў, каб усе бацькі падпісаліся ўдома і далі яму дэклярацыі, а ён ужо пасьведчыць завочна, так што ня трэба будзе ісьці ўсім у гміну.

Узяўшы дэклярацыі, ён трымаў іх аж да апошняга дня тэрміну, а затым кажа, што ня мае права сцьвярджаць завочна і адаслаў назад дэклярацыі. Тады ўсе дэкляранты павалілі ў гміну самі. Войт круціў, круціў і да 31 сакавіка не заверыў. Калі-ж тэрмін быў прадоўжаны да 21 гэтага красавіка, і сяляне ізноў панясьлі ў гміну завяраць дэклярацыі, то войт знайшоў новую хитрасьць: кажа, што інспэктар прыказаў ужо не завяраць, бо прайшоў тэрмін. Так дэклярацыі й засталіся незавераныя. Вінават войт!

Жыхары в. Паўлаўшчына Ізабелінскай гм. у восень 1924 г. адчынілі прыватную беларускую школу. Дзяцей набралася 45 душ.

17 студзеня 1925 г. Школьнаму Інспэктару была пададзена заява аб тым, што сяляне хочуць вучыць дзяцей у сваей роднай беларускай школе.

Але ня тут то было: 22 студзеня прыехала паліцыя, разагнала школу і забрала беларускія падручнікі. Так дзеці засталіся бяз жаднай навукі.

**Наваградзкі пав.** Школьны Інспэктар вымагае ад жыхароў Даўгінава, Ярэміцкай гм., в. Сенно Любчанскай гміны, в. Скрышэва і іншых, якія склалі дэклярацыі аб жаданьні беларускай школы, каб у месячны тэрмін былі прадстаўлены мэтрыкі на дзяцей, пададзеных у дэклярацыях.

**Рэд.** Цікава запытацца ў паноў Школьных Інспэктароў, вымагаючых ад дэклярантаў мэтрыкаў на дзяцей, ці знаходзяцца ў парадку іх дакумэнты пасьля зьнішчыўшай беларускі край сусьветнай вайны. Некаторыя прыходы разбураны так, што не засталося й камня на камні. А што ўжо казаць пра папяровыя рэчы, як мэтрыкі, якія, калі не загінулі ў вагні, то дзесь вывезены.

Дзеля таго, што падобныя фармальнасьці вымагае не адзін Наваградзкі Інспэктар, а многія, трэба, каб нашы паслы парупіліся аб тым, каб ня былі ўняважнены дэклярацыі, калі дэкляранты па тэй ці іншай прычыне ня могуць прадставіць мэтрыкаў.

**Горадзенскі пав.** Школьны Інспэктар адмовіўся даць паквітаваньне паўнамоцніку в. Жыдомлі грам. Гнідко, паўнам. в. Алекшыцы і Вялікія-Жукевічы Мала-Бжэставіцкай гм. і паўнам. в. Навасельні, Кубельнікі і Пяскі Вяліка-Эйсмантоўскай гм., кажучы, што выдаваньне паквітаваньня не прадугледжана распараджэньнем Міністра.

**Рэд.** Гэтакі паважны „urzędnik“ ня ведае ці ня хоча прызнаваць простай фармальнасьці, якая сама па сабе ня мае ніякай вартасьці, а ў грамадзкай справе зьяўляецца важным дакумэнтам.

Апроч таго, ён вымагае, каб кожны бацька, злажыўшы дэклярацыю, заявіўся да яго асабіста (чаму-ж яшчэ бяз дзіцяці?) за 40 вёрст і прадставіў мэтрыку; а калі матка склала дэклярацыю, то мусіць прадставіць мэтрыку аб сьмерці мужа.

**Слонімскі пав.** Жыхары в. Гіршчы, Пацаўскай гм., у палове сакавіка прынясьлі ў гміну дэклярацыі, каб войт сцьвердзіў уласнаручныя подпісы. У гэты час у гміне быў камандант Руда-Яварскага пастарунку, які ні з сяго-ні-з таго стаў пераглядаць дэклярацыі і дапытвацца, чаму пісаны адною рукою і хто пісаў, казаў войту не сцьвярджаць подпісаў тых жыхароў, якія яшчэ не заплацілі штрафу за тытун. Войт паслухаў і не зацьвердзіў некалькі дэклярацыяў.

Войт Моўчадзкай гміны п. Варанец 17 красавіка ня сцьвердзіў подпісаў на дэклярацыях жыхароў вёсак Кузявічы і Ярашова, кажучы, што ўжо позна, прайшоў тэрмін падачы; баламуціў, што перш трэба мець будынак і вучыцеля. Калі яму сказалі, што тэрмін прадоўжаны, то ўсё роўна не сцьвярдзіў. Сяляне кажуць, быццам у пачатку сакавіка ён сабраў у гміну ўсіх солтысаў і прыказаў, каб жыхары ніякіх дэклярацыяў ня пісалі, а то ўсё роўна не пасьведчыць, а тым, хто асьмеліцца пісаць, будзе кепска...

Выпаўняючы, відаць, загад войта Варанца, солтыс вышэй адзначаных вёсак Ярашова і Кудзеўцы грам. Максім Бакоч пагражае бацьком, каб ня пісалі дэклярацыяў і не нясьлі ў гміну, бо арыштуюць, кажа, што няхай лепш будзе польская школа. Але ніхто гэтых пагрозаў не баіцца і ўсе, як адзін, напісалі дэклярацыі, толькі адзін солтыс не напісаў.

Аб паступку войта паведамілі Беларускі Пасольскі Клюб, а войта Варанца і солтыса Бакача залічылі да ворагаў беларускага народу.

На гэтым затрымліваюся, а што-ж тычыцца слова „шантаж“, упамянутага нібыто прэзыдыумам Ч. Б. Р., дык аб гэтым будзе іншая гутарка і ў іншым мейсцы! **Г. Канапацкі.**

Зусім салідарны з гэтым адказом: **Я. Бэкіш.**

7—V—25. **Лапа-Старженецкі.**

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаем гэтае пісьмо з увагі на яго грамадзкае значэньне: яно выкрывае з поўнай ачывістасьцяй, чым зьяўляецца „Час. Бел. Рада“ і што за людзі ў ёй працуюць.

Адначасна прымушаны адзначыць, што вестка наша аб выхадзе з „Ч. Б. Р.“ адзінага прызваітага чалавека, які там яшчэ астаўся: п. Фр. Аляхновіч, — аказалася перадчаснай. П. Аляхновіч астаўся ў Радзе пасьля выхаду з яе п. п. Бэкіша, Лаппы Старжэнецкага і Канапацкага і нясе адказнасьць за ўсе нягодныя ўчынкі і даносы „старшыні“ яе, п. Паўлюкевіча.

# Карэспандэнцыі.

## Абразок з нашага жыцьця.

(З *Слонімшчыны*).

У гміне Марынскай нядаўна было такое здарэньне. Нейкім парадкам заблукалася ў вёску Мікалаеўшчыну паліцыя з Марынскага пастарунку, і тутака яны давай паказваць сваю ўладу. Зараз жа патрэбавалі ў Яна Весялухі бутэльку гарэлкі, каўбасы, сыра і г. д., але ж мала гэтага, шукай балей, дзе хочаш бяры, а давай. А тутака навярнуўся з Слоніма брат Яна, Васіль, які штось сказаў на Яна; дык гэта паліцыя за каўнер Васіля, ды ў морду і ўсыпала.

Потым паклікалі грамадз. Весялуху Грыгора, які ня ўсьпеў увайсьці ў хату, як паліцыянт сустрэў у сенях і давай біць па твару, кажучы, што „ты—беларус, хочаш беларускай школы, дык ты яшчэ будзеш пісаць дэклярацыі на школы, ты яшчэ будзеш мець перапіску з Радаю Школьнаю Беларускаю“, ды рознымі не прызваітымі словамі лаяў яго.

Дык вось, што робіцца на нашай Бацькаўшчыне, а нават і ў роднай хаце. Але нічога: нас не застрашаць, мы, беларусы, — моцныя, а як б'юць нас, дык мы яшчэ мацнеем. **Х.**

## Моўчадзкі дзяцюк—вучыцелем.

(З *Слонімшчыны*).

У вёсцы Міжавічах ёсьць вучыцель у польскай школе, нейкі Апанасік, з пад Моўчадзі, з адукацыяй расейскае вышэйшае пачаткавае школы; але гэты вучыцель высока нос задзірае, быццам ён добры студэнт і добра вучыць. Дзякаваць Богу, ужо гэны дзяцюк вучыць у Міжавічах дзетак чатыры гады, але-ж што дзеці навучыліся? — абсалютна нічога,—бо й калі было вучыцца? Апанасік шмат сьвяткуе, бо вучэбных дзён, лічучы агулам, выйдзець па два дні на тыдзень, (ён часта балюець!). Праўда, ёсьць і другія прычыны, што няма часу вучыць дзяцей: бо Апанасік разам служыць і паштовым агентам у Міжавічах, і, як кажуць, сышчыкам (шпіёнам). Найгорай гэная пошта: адно толькі наш „вучыцелька“ ў школу, а тут бац.... якісь-такісь панок—па карэспандэнцыю, — дык трэба йсьці выдаць пошту,—а вы, дзеткі, круціце галовы ў школе самы!..

Аднак-жа, як прыйдзе наш чалавек („такі-сякі“, як ён называе), дык зачакай,—бяз хвігі не да носа!..

Цікава яшчэ, як вучыцялі карыстаюцца хурманкамі (здаецца, неаграніčана), бо наш дзяцюк, як задумаў да Слоніма, дык давай солтыс хурманку, бо „вучыцель едзе, дый яшчэ каб за паўгадзіны быць ў Слоніме!.

Ці ж гэта толькі адзін вучыцель Апанасік у Слонімскім павеце?.. **Янка Ведайка.**

# Паштовая скрынка.

**Грамадзяніну Бурдукевічу.** Грошы атрыманы, адрэс пераменены. газэта высылаецца.

**Грамадзяніну Г. Р. № 30.** Газэта выходзіць два разы ў тыдзень, Вам высылаецца акуратна.

**Грамадзяніну Ф. С.**, з Ружанскай гміны.

Карэспадэнцыя атрымана. Пішэце аб паважнейшых справах. Добра было-б, каб пісалі ў роднай мове.

**Грамадзяніну з Гарадка.** Карэспадэнцыя атрымана, але мала цікаўная.

**Гр. Прыхажаніну.** У справе кампраміту ючых паступкаў сьвяшчэньніка Назарэўскага, у адносінах як царквы, так і прыхажан, зьвярнецеся да Кансісторыі ў Варшаве.

**ГРАМАДЗЯНЕ!**

**Памятайце, што газэта—гэта вашая агульная ўласнасьць, якая істнуе за складаную вамі падпіску! Дык кожын, хто адчувае патрэбу чытаць родную сваю газэту, хай памятае і свой абавязак перад ёй!**

**Прысылайце акуратна падпіску! Намаўляйце да гэтага суседзяў і знаёмых!**

**Каму не пад сілу падпісацца на газэту аднаму,—падпісвайцеся ўскладчыну!**

Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня.**

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.